Залеская талака

Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра ГА "Сяльчанка" Смаргонскага р-на / №6-7 (24-25) / чэрвень-/ліпень 2013

# Фестываль “Open City 2013”. Нашы ў Любліне!

17-21 чэрвеня 2013 года. Лета. Польшча. Люблін. Транснацыянальны фестываль ландшафтнага дызайну “Адкрыты горад”. У рамках фестывалю польскі мастак Павел Альтхамер і беларуская мастачка Марына Напрушкіна сабралі каманду з 30 чалавек ды стварылі новы грамадскі парк у цэнтры Любліна.

У пэўны час у пэўным месцы сабраліся людзі з розных краінаў свету з мэтай стварыць новы грамадскі парк. Падарыць яго гораду, аддзячыўшы за гасціннасць і ўтульнасць старых і новых вулачак. Аддзячыць гораду, якога раней зусім не ведалі. Гораду з гістарычнымі традыцыямі мультыкультурнасці, якія жорстка адкарэктавала другая сусветная вайна. Да яе пачатку ў Любліне налічвалася каля 50% габрэйскага насельніцтва, тут кампактна пражывалі разам з палякамі беларусы, украінцы, рускія… “Тут і цяпер” пра страту цярпімасці і талерантнасці яскрава нагадвае Майданек. Былы канцэнтрацыйны лагер смерці, дзе загінула каля 360 тысяч чалавек. У нашы дні – музей, які нагадвае пра жахлівыя рэчы, якія адны людзі рабілі з другімі.

У кожнага з удзельнікаў фестывалю – свае думкі пра праект…

Анда Ротэнберг, куратар фестывалю “Адкрыты горад”

У праекце, дзе так шмат мастакоў ды інсталяцый, мне вельмі цікава паглядзець, як яны ўсе падыйдуць да тэмы, да яе раскрыцця… Такі складаны і важны сюжэт - ад уніі да ўніі…



Валанцёры паліваюць створаныя кветнікі

У супярэчлівых варунках нашага свету заўжды знаходзяцца нацыі, якія з-за нейкіх ненатуральных палітычных авантур разрываюцца паміж рознымі дзяржавамі. Гэтыя палітычныя варункі падзяляюць людзей адной нацыі. Люблін калісці знаходзіўся ў цэнтры вялікай Польшчы, Рэчы Паспалітай… Гэта была вялікая ўнія, дзе ішла гаворка пра Польшчу і Літву, але мала казалася пра Украіну, Беларусь, Малдову… Пра татараў і габрэяў, якія жылі тут… У наш час Люблін, які раней знаходзіўся ў цэнтры пэўнага свету, цяпер апынуўся на мяжы ўжо іншага свету. І складаецца з зусім іншых культурных, моўных канструкцый. Калі глядзець ад Атлантыкі, то гэта проста іншы канец Еўропы, Беларусь ды Украіна зноўку не ўлічваюцца.

Праект Марыны Напрушкінай – пра тое, што існуе напаўзабытая, але моцная сувязь паміж Польшчай, Беларуссю ды Украінай. Мяжа Еўропы ўсё ж такі Урал…

Сільвія. Нарадзілася ў Польшчы (Вроцлаў), а жыве ў Берліне. Свой універсітэцкі дыплом на факультэце геаграфіі прысвяціла тэме “Гарадскія сады”

Здорава, што ў адным месцы змаглі сустрэцца такія розныя людзі! Змаглі працаваць разам, дамаўляцца, вырашаць рабочыя пытанні і ствараць нешта новае.



Прывезлі кветкі - распачынаем працу!

Рух гарадскога садаводства (ці агародніцтва) з’явіўся ў буйных гарадах ЗША ды Германіі як пратэст супраць пераўтварэння сучасных гарадоў у гетта са шкла і бетону, дзе не засталося нічога жывога, дзе людзі не могуць свабодна дыхаць, працаваць і адпачываць. Глабальнае гарадское садаводства – гэта суполка людзей, што жывуць побач, у адным раёне. Яны збіраюцца разам і ажыццяўляюць нейкі праект… Людзі проста не адчуваюць сваёй прыналежнасці да месца жыхарства і спрабуюць гэта выправіць, зрабіць месца пражывання больш прыгожым, утульным, “жывым”.

У розных людзей з розных краінаў свету ёсць свае прычыны для заняткаў гарадскім садаводствам-агародніцтвам: хтосьці робіць гэта таму, што хоча адчуць жывую прыроду, садавіну, гародніну, кветкі, а камусьці проста не хапае грошай на экалагічныя і натуральныя прадукты харчавання ў крамах. У Германіі прыхільнікамі гарадскога садаводства часта становяцца сем’і з дзецьмі, каб паказаць, напрыклад, як растуць клубніцы, што гэта насамрэч адбываецца не ў супермаркетах. І колькі працы трэба, каб вырасціць смачныя ягады, садавіну, гародніну. Выхоўваецца адказнасць: расліна не паліваецца, яна загіне.

Міжкультурныя сады. Гэты падвід гарадскога садаводства ў Германіі паказальны ў плане інтэграцыі розных народаў. На адной пляцоўцы могуць сустрэцца і працаваць разам з немцамі людзі з Аўганістана, Турцыі, Чачні, Ірану і г. д. У такіх міжкультурных садах пасадка раслін не галоўнае, галоўнае – сацыяльныя функцыі праекту, да прыкладу, адукацыйныя курсы для жанчын. Жанчыны з азіяцкіх краінаў падчас абсалютна не валодаюць граматай, не ўмеюць чытаць і пісаць… Шмат цікавых прыкладаў у гэтым накірунку: людзі могуць разам займацца кулінарыяй, вытворчасцю натуральнай касметыкі ці хадзіць у басейн. Для жанчын з закрытых культураў – гэта шанец выйсці з абмежаванага кола зносінаў сваёй сям’і. У такіх праектах людзі проста вымушаны мець зносіны, размаўляць паміж сабой, вырашаць нейкія канфліктныя сітуацыі, і гэта вельмі важна. Вельмі цяжка ў гарадскіх умовах знайсці плошчу для парка-сада-агарода і захаваць яе за сабой больш, чымсьці на адзін год…

У Беларусі - свае асаблівасці, і вясковыя дзеці ў большасці выпадкаў цудоўна ведаюць, як і дзе растуць клубніцы. Кіраўніца ГА “Сяльчанка” Смаргонскага раёна Ала Мікалаеўна Шыцікава падчас агульнай размовы валанцёраў у парку распавяла пра стварэнне дзіцячай пляцоўкі ў Залессі, пра конкурс дзіцячых малюнкаў, прысвечаны выбару малых архітэктурных форм для гэтай пляцоўкі.

З Беларусі ў Люблін прыехала 12 чалавек, большасць з іх – прадстаўніцы ГА "Сяльчанка" з Залесся Смаргонскага раёна.

На ўрачыстым адкрыцці фестывалю і парка прысутнічалі намеснік міністра культуры Маргарыта Аміланоўская ды куратар фестывалю "Адкрыты горад" Анда Ротэнберг.

Людзі з розных краінаў свету сабраліся ў цудоўным горадзе і падарылі яму парк… Вельмі хочацца, каб ён захаваўся, жыў і радаваў дзяцей ды дарослых сваёй прыгажосцю. Ёсць ідэя вярнуцца ў Люблін і падрыхтаваць парк да зімы. Трэба знайсці надзейных валанцёраў на месцы, якія маглі б далей клапаціцца пра расліны і дзіцячую пляцоўку – сваоеасаблівы пазітыўны "дадатак" да парку. Хочацца верыць, што ўсё атрымаецца!

**Дар'я Ліс**


Урачыстае адкрыццё парку, выніковае фота

## Литовский опыт агроэкотуризма

В проекте ПРООН «Местное предпринимательство и экономическое развитие», где территория Сморгонского района стала одной из победительниц, заявителем выступил Сморгонский местный благотворительный фонд «Северные Афины М. К. Огинского». Конкурс был объявлен для развития туристического потенциала территорий, расположенных в Брестской и Гродненской областях. Цель проекта — повысить роль частного сектора (малого и среднего бизнеса) в данных областях. Важная задача проекта заключается в создании стратегий развития экотуристического бизнеса отобранных территорий. Для написания стратегии развития территории Сморгонского района и организации экотуристического бизнеса в рамках проекта была организована обучающая поездка в Литву.

На примере работы агроусадеб Вильнюсского и Каунасского районов представители Сморгонского района познакомились с работой ассоциации сельского туризма Литвы. У нас очень много общего: леса, реки, озера… Но в плане развития своих подворий соседи ушли намного вперед. Мы призываем хозяев наших агроусадеб начать работать по-новому, с определением направленности, индивидуальности каждой усадьбы, в партнерстве с другими усадьбами и мастерами. В Литве это уже достигнуто… Например, для охотников, имеется полигон, где есть возможность пострелять, поучиться. Для любителей физических нагрузок построен скалодром с различными веревочными препятствиями и многие другие спортивные сооружения. Мы сами видели, что у них нет отбоя от клиентов! Люди работают на перспективу: строят амфитеатры, вписывая их в ландшафт, проводят там концерты и местные праздники. Целые дома ремесел расположены в агроусадьбах, здесь же продают изделия, изготовленные народными мастерами. Корпоративы не основной источник доходов. Конечно, это тоже имеет место, но проводится все в национальных традициях и с привлечением профессионалов. Я думаю, что и наши хозяева придут к этому, ведь так работает уже Воложинский, Лепельский и другие районы…


Скалодром в одной из литовских агроусадеб

Поездки по обмену опытом помогут и нам подняться на другую ступеньку развития в этом бизнесе. Очень хотелось бы, чтобы и люди Залесского сельского совета включились в эту работу. У нашей территории есть потенциал. Вы видите сами, сколько есть желающих отдохнуть летом в наших чудесных местах. Нужно развивать гостиничный бизнес и сферу общепита. После открытия музея М. К. Огинского доходы местных жителей от туризма должны вырасти. При написании стратегии развития Залесья мы определили, что туризм — одна из основных статей дохода и развития нашего края.

**Алла Шитикова, руководитель первичной организации ОО «Сельчанка» Сморгонского района**




Сайт http://zalesse.by – гэта навіны з жыцця Залесся, актуальныя фотарэпартажы, анонсы цікавых падзей, расклад цягнікоў, нарысы па гісторыі ды краязнаўству, знаёмства з беларускай нацыянальнай кухняй і многае іншае. Сайт http://zalesse.by запрашае жыхароў Залесся і землякоў з іншых куточкаў свету сябраваць і супрацоўнічаць!

Заснавальнік ГА "Сяльчанка" Смаргонского р-на / адрас:в.Залессе, вул. Чыгуначная. Гал. рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375296553013 www.zalesse.by
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна.